


# Ахова птушак Бацькаўшчыны

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ




www.ptushki.org

№ 1 (52) - 2013


# Вынікі акцыі “Жывая вясна”






Белы бусел © М.Верабей



Вясковая ластаўка © М.Верабей



Шчурка-пчалаедка © Spacebirdy



Чорны свіргуль © М.Верабей



Звычайная зязюля © Tim Peukert

У гэтым годзе ў межах агульнаеўрапейскай кампаніі “Жывая Вясна” мы разам назіралі за прылётам пяці птушак – пасланак вясны: белага бусла, вясковай ластаўкі, звычайнай зязюлі, чорнага свіргуля і шчуркі-пчалаедкі. Усяго ў акцыі бралі ўдзел 40 краін. Беларусь апынулася на пятым месцы з 5510 зарэгістраванымі назіраннямі.

Самым першым з прадстаўленных птушак заўважылі белага бусла. Гэта адбылося 25 лютага. Больш чым праз месяц зарэгістравалі назіранне вясковай ластаўкі – 3 красавіка. За ёй прыляцелі зязюля – 8 красавіка і чорны свіргуль – 13 красавіка. І толькі 1 траўня была зарэгістравана першая шчурка-пчалаедка.

Усяго белых буслоў было адзначана 2910, вясковых ластавак – 1119, звычайных зязюль – 620, чорных свіргулёў – 846, а рэдкіх для Беларусі шчурак-пчалаедак зарэгістравана 14.

Калі казаць пра лепшых удзельнікаў, тут першае месца падзяляюць Мінская вобласць з 4840 назіраннямі і Брэсцкая вобласць з 366. Найбольш актыўных удзельнікаў кампаніі чакаюць узнагароды.

Вясна падаравала нам столькі прыгажосці і птушыных спеваў. Мы развітваемся з ёй, кажучы шчыры дзякуй, а летам будзем далей назіраць за цікавымі падзеямі птушынага свету.

Спадзяемся, што вы атрымалі сапраўдную асалоду ад сустрэчы вясны і першых птушак, а таксама даведаліся аб нечым новым і наблізіліся да прыроды.

**Дзякуем усім удзельнікам “Жывой Вясны” за цікаўнасць да кампаніі і любоў да птушак!**

**Вольга Гарадніцкая,**
**каардынатар кампаніі**

# Сохраним болота вместе

**25 октября 2013 года в Беларуси стартовала общественная кампания в защиту болот. В оргкомитет кампании вошли экологическое товарищество «Зеленая сеть», общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ), общественное объединение «Экодом», учреждение «Центр экологических решений» и «Экопроект-Партнерство». В поддержку кампании был объявлен сбор подписей среди общественных организаций и жителей Беларуси, местные жители также собирали подписи в поддержку своих болот.**

19 апреля 2013 года все собранные подписи местных жителей (около 500), общественных организаций (90 подписей), подписей под электронным обращением и бумажные подписи граждан (более 5000) были переданы в Совет Министров Республики Беларусь, Минский областной исполнительный комиетет, Комитет государственного контроля, Министерство энергетики и Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды.

К сожалению, в своем ответе на обращение жителей и общественных организаций, Министерство энергетики и концерн Белтопгаз высказались категорически против отмены Постановления и сохранения целостности заказников.

Первой территорией, которая попала «под нож» в рамках Постановления №794 стал заказник «Ветеревичский». Несмотря на то, что ученые Академии наук Беларуси считают добычу торфа в заказнике «Ветеревичский» невозможной, Пуховичский исполнительный комитет вынес решение о выводе 200 га территории заказника из категории охраняемых земель.

Старший научный сотрудник института Максим Ермохин утверждает следующее: «Земли, на которые претендует Старобинский торфобрикетный завод, являются особо ценными. И несмотря на решение райисполкома, мы не можем дать положительное обоснование, так как торфодобыча там ставит крест на всей экосистеме, на всем заказнике».

В рамках кампании, ОО «Экодом» подало жалобу в прокуратуру Пуховичского района. В итоге решение о преобразовании ландшафтного заказника местного назначения «Ветеревичский» было признано незаконным и приостановлено.



Заказник Ветеревичский © bezbolot.net

# Навіны арганізацыі

## Первый Атлас гнездящихся птиц Беларуси



Подорлик малый © Н.Гулинский

С 2013 г. по инициативе Европейского совета по учётам птиц (EBCC) начинается большой общеевропейский проект по созданию второго европейского Атласа гнездящихся птиц. Первый Атлас создавался еще в 80-е годы прошлого века и был издан в 1997 г. (Hagemeijer & Blair). За эти тридцать лет изменилось многое: условия обитания птиц, численность и распространение практически всех видов. Выяснить современную ситуацию распространения птиц в Европе – это главная цель нового амбициозного проекта. Полевые исследования продлятся 5 лет (2013-2017 гг.), а издание книги европейского Атласа намечено на 2020 г.

В рамках европейского проекта планируется создать первый национальный Атлас гнездящихся птиц Беларуси. На сегодняшний день Беларусь одна из немногих стран Европы, где еще никогда не создавался свой национальный Атлас птиц. Некоторые страны, например, такие как Чехия, Великобритания, создали уже 2-3 Атласа, примерно один в 10 лет, и не планируют останавливаться на достигнутом.

Для чего же нужен национальный Атлас? Прежде всего, это актуальные сведения о современном распространении и численности гнездящихся птиц Беларуси. Также это основа для изучения в последующие годы динамики численности и распространения видов, подспорье при планировании действий по охране птиц, ценные данные для научного анализа и другое.

Собрать информацию для такого Атласа можно только совместными усилиями большого числа участников. ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»и НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам, как соорганизаторы работы по проекту, приглашают всех заинтересовавшихся людей принять участие в проведении учетов гнездящихся видов птиц и подготовке издания. Все участники проекта будут обязательно указаны в планируемой книге. Кроме того, есть возможность стать авторами видовых очерков. Чтобы присоединиться к созданию Атласа, нужно заполнить анкету на сайте АПБ. После этого вам будут высланы методические рекомендации по проведению учётов птиц.

**Семён Левый, технический координатор проекта**

## Тыдзень птушак у Брэсце



Тыдзень птушак у Брэсце © Ю. Янкевіч

Ужо дзявяты раз на базе сектара "Прырода і экалогія" брэсцкі краязнаўчы музей разам з Заходне-Палескім рэгіянальным аддзяленнем "Аховы птушак Бацькаўшчыны" праводзіць Міжнародны тыдзень птушак.

У мінулыя гады тыдзень птушак у Брэсце праходзіў у выглядзе экалагічных гульняў для навучэнцаў сярэдніх школ. Але ў гэтым годзе гульні крыху адрозніваюцца – ім надалі больш сямейны і калектыўны характар. 1 красавіка ўсе наведвальнікі музея маглі паўдзельнічаць у адукацыйных экскурсіях і турнірах.

У музеі таксама была прэзентаваная фотавыстава Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ, якую на працягу месяца маглі наведаць усе жадаючыя. Не абышлося без майстар-класаў: Дзяніс Табуноў паказаў, як трэба рабіць штучныя гняздоўі для вераб'іных птушак, а мастачка Таіса Філіпава навучыла размалёўваць яйкі.

Мерапрыемства было накіравана на тое, каб удзельнікі атрымалі як мага больш ведаў пра птушак і родны край.

## Для птушак і людзей



Працы ўдзельнікаў конкурса

Кожны год Слуцкі экалагічна-біялагічны цэнтр навучэнцаў, на базе якога працуе Слуцкае аддзяленне АПБ, праводзіць раённую арніталагічную акцыю ў межах нацыянальнай кампаніі "Птушка года". Гэтым разам акцыя "Для птушак і людзей" пачалася ў лютым, а скончылася 6 красавіка. Яна ўключала наступныя намінацыі: "Удод – птушка 2013 года", "Мы птушак захаваем – і Зямля будзе жыць!", "Падарунак Музею Салаўя".

Каля 500 чалавек прынялі ўдзел у акцыі. Юныя мастакі адлюстравалі яркага ўдода, агітбрыгады сваімі выступамі прыцягнулі ўвагу да звычайных птушак і іх разнастайнасці, выказаліся супраць вясенняга палявання, забруджвання тэрыторый і вадаёмаў. Удзельнікі акцыі паказалі, якой багатай можа быць іх фантазія. Былі прадстаўлены вырабы ўдода з пер'яў, паперы, пластыліна, бісера і гэтак далей.

## Назірай за птушкамі разам з Клубам200!

Клуб200 – гэта добраахвотнае аб'яднанне сябраў АПБ, якія цікавяцца назіраннямі птушак. Клуб дапамагае яго сябрам убачыць у прыродзе новыя для іх віды, а таксама рэдкія у Беларусі або зрэдку адзначаемых на яе тэрыторыі; больш даведацца пра вызначэнне птушак. Адначасова Клуб накіраваны на актыўную ахову птушак на нацыянальным і міжнародным узроўнях.

Клуб200 адкрыты для кожнага сябра АПБ, які падзяляе мэты Клуба, выконвае нормы (правілы) Клуба. Яго сябрам можа быць назіральнік птушак, які адзначыў не менш за 200 відаў птушак на тэрыторыі Беларусі. Кандыдатам у сябры можа стаць той, хто адзначыў не менш за 100 відаў птушак на тэрыторыі нашай краіны. Кандыдат у сябры распаўсюджвае і атрымлівае ўсю інфармацыю нароўні з сябрамі Клуба, але не можа быць абраны ў Праўленне Клуба і галасаваць па гэтым і іншым пытанням, звязаным з дзейнасцю Клуба200.

Зарэгістравацца можна на сайце грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны": www.ptushki.org/club200. Зрабіўшы гэта, вы зможаце адзначаць птушак, якіх вы бачылі за ўвесь час свайго захаплення імі. Таксама можна адзначаць толькі тых птушак, якіх вы ўбачылі ў 2013 годзе.




Клуб200 мае свае рэкорды і сваіх рэкардсменаў. Напрыклад, Дзяніс Кіцель за 95 дзён заўважыў 100 відаў птушак. За такі маленькі тэрмін да Дзяніса яшчэ ніхто не назіраў столькі відаў. А Раман Шкабара з'яўляецца самым маладым сябрам Клуба200 – ён заўважыў свой 200-ты від ва ўзросце 15-ці гадоў і аднаго месяца.

Нават калі вы не бачылі 200 ці 100 відаў птушак, вы можаце зарэгістравацца ў Клубе, каб проста для сябе адсочваць свае назіранні. Далучайцеся да Клуба200!

## Кукушки онлайн



Обыкновенная кукушка © Tim Peukert

В этом году Беларусь присоединилась к международной программе по спутниковому слежению за обыкновенной кукушкой. Проект, задача которого состоит в том, чтобы способствовать сохранению популяции обыкновенной кукушки в Европе, будет реализовываться в 2013 году в трех странах – Беларуси, Германии и Великобритании.

Пять кукушек получили специальные датчики, которые передают информацию о местонахождении птиц в режиме реального времени. Это позволяет установить пути их миграции и места зимовок.

Программа слежения за кукушками уже дала первые результаты: четыре из пяти птиц вылетели за границы нашей страны, а одна из них была зафиксирована в Саудовской Аравии! Все желающие могут понаблюдать за полётом птиц онлайн на нашем сайте: www.ptushki.org/cuckoo.




# Новые правила ведения охоты

**Министерство лесного хозяйства Беларуси опубликовало для общественного обсуждения новый проект Правил ведения охотничьего хозяйства и охоты. Предыдущий вариант вызвал широкое общественное обсуждение, после чего Минлесхоз заверил, что голос общественности был услышан. В частности, ведомство заявило, что приняло меры по снижению влияния весенней охоты на птиц.**







Простое сравнение вариантов показывает, как Министерство лесного хозяйства позаботилось о мигрирующих и гнездящихся весной птицах.

В текущем документе разрешается охота на 1 вид уток (крякву) в период с 1-й субботы апреля по 2-е воскресенье мая, в светлое время суток. Причем она открыта только на селезней, подсевших к чучелам или подсадной. Также запрещается охота на пролетающих птиц (кроме гусей и вальдшнепов).

Сравним с тем, что предлагается в новой редакции: массовая весенняя охота разрешена уже на 5 видов уток, причем предлагается разрешить стрельбу на уток влет.

К слову, в предыдущем варианте проекта Правил, который был вывешен на сайте Минлесхоза и уже не доступен, предполагалось убрать электронные манки из разрешенных способов охоты при охоте на уток: «ружейный из засады (скрадка) только с подманиванием с помощью подсадной утки (уток) и (или) чучела (чучел) и манков кроме электронных». Почему же отказались от этого нововведения в новой редакции Правил непонятно, ведь электронные манки запрещены даже в России.

В документе есть целый ряд сносок, на которые ссылается Минлесхоз и которыми вводятся ограничения и особые случаи. Только в отличие от договоров или рекламы, где мелким шрифтом пишут самое главное, в Правилах все эти сноски не имеют практически никакого значения.

Сноска первая. Или, скорее, ее отсутствие - Приложения 11/1, которое определяет виды и сроки охоты на территориях, находящихся в ведении Управления делами президента Беларуси.

Само уравнивание прав всех охот пользователей – вещь правильная. Скорее, даже удивительно, как в действующий вариант Правил попало разделение охотпользователей на «высшую» и «низшую» касты. Наверно, «по просьбам трудящихся».

В плане же охоты на водно-болотных птиц наличие или отсутствие особых привилегий для охотхозяйств, находящихся в ведении Управления делами президента, практически ничего не дает. Потому, что в Припятском национальном парке как охотились без правил, так и будут охотиться дальше. А в Беловежской пуще как не охотились весной, так, надеюсь, и не будут.

В то же время, убрав Приложение 11/1, Минлесхоз существенно расширил список охотничьих видов, которые можно добывать весной. При этом логика включения того или иного вида – не понятна. При том, что адекватных данных о численности уток в распоряжении Министерства нет, совсем не ясно, почему весной предлагается охотиться, например, на красноголового нырка, количество которого устойчиво снижается как в Европе, так и в Беларуси, а сам вид отнесен ко 2 категории в Списке приоритетных видов для охраны в Европе (SPEC-2). Для сравнения, к этой же категории отнесены малый подорлик и красный коршун.




Сноска вторая - об ограничении срока охоты до 28 дней в рамках двухмесячного весеннего периода со 2-й субботы марта по 2-е воскресенье мая.

На самом деле говорить об этом как о достижении – просто лукавство. Для уток сезон охоты и так длился 5 недель, но был фиксированным. А интенсивный пролет гусей проходит и того быстрее. В то же время закладываемая в этом положении гибкость, дающая возможность охотпользователям самостоятельно определять сроки охоты в рамках двухмесячного периода, направлена совсем не на охрану птиц. Как раз наоборот: смысл заключается в предоставлении возможности открыть охоту в наиболее привлекательный период, с учетом особенностей погодных условий, чтобы обеспечить охотам максимальную успешность. Соответственно, для птиц это будет означать максимальный урон.

Сноска третья - о запрете на охоту на серого гуся в местах его гнездования.

Здесь логика Министерства лесного хозяйства вообще не понятна. С одной стороны, вроде бы ведомство как бы хочет оградить серого гуся от весенней охоты и предлагает в местах гнездования, подтвержденных Академией наук, запретить его добычу. С другой – оно настойчиво не желает исключить серого гуся из списка охотничьих видов для весеннего сезона охоты, что было бы гораздо проще и понятнее.

Весной же получится, что многие серые гуси так и не смогут долететь до «утвержденных Минприроды» мест гнездования в нашей стране, так как будут застрелены по дороге, а на территориях, до которых Академия наук не добралась и о которых не знает, так и не смогут начать гнездиться. За примерами далеко ходить не надо: про то, как в этом году выбили серого гуся, можно почитать здесь.

Вот такая хитрая охрана серого гуся.

## Что в итоге?

В сухом остатке, посмотрев на предлагаемые изменения в новой редакции Правил ведения охоты и охотничьего хозяйства, имеем следующее:

- наращивание количества видов, на которые будет открыта охота (с 1 до 5) и включение в список видов, имеющих неблагоприятный статус;
- увеличение в 2 раза периода, в котором можно будет охотиться на уток (с 1 месяца до 2 месяцев) и предоставление охотпользователям возможности начинать охоту в наилучшее для них время;
- разрешение стрельбы на уток влет;
- псевдомеры по сохранению серого гуся;
- неспособность сохранить в Правилах хоть какие-то разумные предложения по снижению пресса весенней охоты на популяции птиц (например, запретить электронные манки).

Охота в таком виде и с таким отношением регулирующего охоту органа – это просто безответственность.

# Весенняя охота

**Мы всегда с радостью встречаем весну, слушая пение птиц. Но о том, что десятки тысяч уток и гусей могут быть убиты из охотничьего ружья в это время года, многие забывают или и вовсе не хотят знать. Каждый год с приходом весны природозащитные организации и неравнодушные люди снова и снова напоминают о проблеме весенней охоты на водоплавающих птиц в нашей стране.**

Реки Республики Беларусь – это ключевые европейские миграционные пути. Каждую весну самые сильные птицы, пережившие осеннюю охоту и долгую зиму, останавливаются здесь на гнездование и кормежку. В это же время начинается сезон весенней охоты, и тысячи белорусских и иностранных охотников утоляют свою жажду развлечений ценой убитых птиц.

Каждый год общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» призывает общественность задуматься об этой серьезной проблеме и начать действовать в области отмены весенней охоты. Неоднократно подписывались петиции, проводились акции и образовательная работа. В этом году представители АПБ решили отойти от сбора подписей и отправки писем против весенней охоты в органы государственного управления.

Совместно с рекламным агентством Publicis Hepta Belarus «Ахова птушак» постаралась привлечь внимание не совсем обычным способом: были созданы открытки не для слабонервных с трогательными строками об убитых птицах. Они адресованы в первую очередь охотникам, Министерству лесного хозяйства, охотничьим обществам и другим активным организаторам и защитникам весенней охоты, таким, например, как Национальный парк «Припятский». К сожалению, никакой реакции не последовало.

Весной под выстрелы охотников попадают птицы, готовые к размножению. Это означает, что они уже никогда не дадут потомства. О необходимости закрыть весеннюю охоту на водоплавающих птиц в Беларуси неоднократно высказывались представители науки и культуры, такая же позиция Белорусской православной церкви и Католического костела, Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь. Несмотря на все усилия, весенняя охота по-прежнему длится два месяца. Для сравнения: в странах Европы, включая Украину, такая охота закрыта повсеместно. В России ее срок сокращен до 10 дней, а в ряде регионов нашей ближайшей соседки на нее и вовсе введен запрет.

Этой весной общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» поддержала петицию школьника Артёма Толочко. Ее подписали более тысячи человек. Это доказывает, что даже школьнику понятно: весенняя охота – это хамская охота.



**Виктор Фенчук, директор общественной организации «Ахова птушак Бацькаўшчыны»:**

Проблема весенней охоты на водоплавающих птиц является одним из приоритетных направлений работы АПБ. Важно отметить, что внимание общественности к проблеме усиливается: с каждым годом всё больше людей узнают об этом, всё большее число охотников понимает несовместимость весенней охоты с сохранением водно-болотных птиц. Я уверен, что эти количественные изменения превратятся в качественные. Но когда и как это произойдёт, сложно сказать. Наверное, тогда, когда Министерство лесного хозяйства, которое отвечает за регулирование охоты, перестанет одновременно отвечать и за выполнение плана по доходам.


Зубр

## 1. Белавежская пушча

Белавежская Пушча – буйнейшы і адзіны з некалі тыповых ў Еўропе масіў пярвічных лясоў, які захаваўся да сённяшніх дзён. Асобныя участкі лесу маюць сярэдні узрост 250 – 350 гадоў, нярэдка сустракаюцца 500-600-гадовыя дрэвы. Белавежская Пушча – адзіны ў Еўропе лясны масіў, у якім больш за тысячу шматвекавых дрэў. Тут адзначана шмат рэдкіх відаў птушак і жывёл. Гэта месца гнездавання **чорнага бусла, барадатай кугакаўкі, звычайнага зімародка** і іншых. Усяго ў Белавежскай пушчы налічавеца 253 віда птушак. З рэдкіх жывёл тут можна пабачыць **еўрапейскую рысь, паўночнага кажанка,** а таксама **зубра** – гордасць пушчанскіх лясоў, самую буйную жывёліну на еўрапейскім кантыненце. Белавежская пушча – самая тытулаваная прыродная тэрыторыя Беларусі.

**Тытулы:** Нацыянальны парк, Аб'ект сусветнай спадчыны, Біясферны рэзерват, Дыплом Савета Еўропы, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці


Арлан-белахвост

## 2. Балота Дзікое

Дзікое – адно з буйнейшых у Еўропе балот нізіннага і пераходнага тыпу, якое захавалася ў натуральным стане. Цікавай асаблівасцю балота зяўляецца наяўнасць тут буйнейшых зарасляў бярозы нізкай. Арнітафаўна тэрыторыі прадстаўлена больш, чым 100 відамі птушак, з якіх каля 20 занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Гэта **барадатая кугакаўка, пугач, арлан-белахвост, чорны бусел, шэры журавель, балотная сава**. Міжнародная значнасць балоту надае гнездаванне тут некалькіх відаў, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення: **вяртлявая чаротаўка, вялікі арлец, дубальт, вялікі грыцук.** На тэрыторыі балота адзначана **рысь, воўк.** Асабістае значэнне Дзікое мае для захавання ў нацыянальным парку «Белавежская пушча» абарыгеннай папуляцыі лася. На тэрыторыі выяўлена больш за 10 відаў насякомых і больш за 20 відаў раслін, што занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

**Тытулы:** Уваходзіць у Нацыянальны парк «Белавежская пушча», Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

## 3. Выганашчанскія балоты


Барадатая кугакаўка

Буйнейшы ў Беларусі комплекс дробнаЛістых забалочаных лясоў, балот, рачных пойм і мелкаводных азёр. Спалучэнне цяжкапраходных тэрыторый абумовіла наяўнасць высокай колькасці рэдкіх відаў птушак. Менавіта тут захавалася адна з апошніх на Палессі папуляцый харызматычнай **барадатай кугакаўкі** (20-30 пар) і **заходне-еўрапейскага падвіду глушца** (15-25 самцоў), рэгулярна гняздуецца некалькі пар **арлана-белахвоста**. Выганашчанскія балоты – дом для шмат відаў, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення: **вяртлявая чаротаўка, вялікі арлец, дубальт, вялікі кулён, вялікі грыцук.** На тэрыторыі заказніка існуе адна з найбуйных у Беларусі груповак лася. Заказнік мае вялікае значэнне для захавання фаўны рэптылій і амфібій: тут знаходзіцца адна з найбуйных у Беларусі папуляцый **гадзюкі.**

**Што пагражае:** Згодна з Пастановай Савета міністраў №794 ад 17.06.2011, да 500 гектараў тэрыторыі заказніка можа быць адведзена пад здабычу торфа дзеля патрэбаў Ляхавіцкага торфа-брыкетнага завода. Дзевяноста грамадскіх арганізацый Беларусі выступілі супраць гэтай пастановы, а тысячы людзей падпісаліся пад адпаведнай петыцыяй.

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці


Венерын чаравічак

## 4. Балота Спораўскае

Тэрыторыя ўяўляе сабой адзін з буйнейшых у Еўропе комплексаў пойменных нізінных балот, які захаваўся ў натуральным стане. Гэта другое па значнасці месца гнездавання вяртлявай чаротаўкі ў Беларусі: тут гняздуецца каля 9% сусветнай папуляцыі, і менавіта тут адзначана самая высокая ў свеце шчыльнасць гнездавання гэтага віду. Балота Спораўскае забяспечвае існаванне папуляцый цэлага шэрагу рэдкіх і знікаючых відаў птушак, сярод якіх два віды **(драч і дубальт)** знаходзяцца пад глабальнай пагрозай знікнення, а 20 занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Забалочаная пойма характарызуецца ўнікальным складам раслін, з якіх 18 відаў ахоўваюцца.

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

## 5. Балота Званец

Званец – буйнейшае ў Еўропе нізіннае балота са шматлікімі адкрытымі астравамі. Плошча балота – больш за 100 квадратных кіламетраў! Асаблівую значнасць Званец мае для захавання буйнейшай у свеце папуляцыі **вяртлявай чаротаўкі**, адной з самых рэдкіх вераб'іных птушак Еўропы. На балоце Званц іх жыве каля 4 тысяч пар, ці кожная трэцяя птушка ў свеце. Знікне Званец – і пад пагрозай знікнення апынецца цэлы біялагічны від. Таму захаванне Званца важнае ў сусветным маштабе. Акрамя вяртлявай чаротаўкі тут жывуць і шмат іншых рэдкіх і цікавых выдаў птушак, такія, як занесеныя ў Міжнародную чырвоную кнігу **вялікі арлец, дубальт, вялікі кулён.** Усяго 21 від птушак са 110, якія адзначаюцца на балоце Званец, занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. На Званцы шмат і рэдкіх раслін, у тым ліку – архідэй: тут растуць **венерын чаравічак, пылкагалоўнік чырвоны** і шмат іншых.

Вяртлявая чаротаўка

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці


Драч

## 6. Прастыр

Адзін з найбольш дзікіх куточкаў Беларусі, які захаваўся сярод пераўтвораных ландшафтаў. Тэрыторыя моцна абводнена, у выніку чаго нават у засушлівыя гады яна цяжкадаступная, а пры высокай вадзе і ўвогуле непраходная. На гэтай тэрыторыі дамінуюць поймавыя лугі, трысняговыя і асаковыя балоты. У складзе арнітафауны Простыра адзначана 133 віда птушак, з якіх 27 занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Найбольшае значэнне тэрыторыя мае для водна-балотных відаў. Тут гняздуюцца 4 глабальна пагражаемых віда: **вялікі арлец, дубальт, вялікі грыцук, вяртлявая чаротаўка.** Таксама, на тэрыторыі ўгоддзя гняздуецца шэраг іншых птушак, якія маюць ахоўны статус у Еўропе або ў Беларусі: **вялікая белая чапля, салаўіны цвыркун, малы і звычайны пагоніч.** Дзякуючы цяжкай праходнасці тэрыторыі фактар неспакою ў пойме мінімальны, што спрыяе канцэнтрацыі ў заказніку розных відаў жывёл.

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці


Вялікі грыцук

## 7. Сярэдняя Прыпяць

Сярэдняя Прыпяць – гэта буйнейшы ў Еўропе ўчастак рачной поймы, які захаваўся ў натуральным стане. Нездарма Прыпяць называюць беларускай Амазонкай – шырыня разліваў можа дасягаць 20 кіламетраў, а шматлікія пераплеценыя старарэчышчы нагадваюць павуцінне. Каштоўнасць заказніка ў захаванасці некранутых пойменных лясоў і лугоў. Пойма ракі Прыпяць у сярэдней плыні – ключавы еўрапейскі пралетны шлях для водна-балотных птушак. Штогод сотні тысяч **качак, гусей, кулікоў** спыняюцца на Прыпяцкіх паплавах на сваім шляху. Тут таксама гняздуюцца занесеныя ў Міжнародную Чырвоную кнігу **вялікі арлец, вялікі грыцук, белавокі нырок.** Ёсць на гэтай тэрыторыі і рэдкія расліны: **сальвінія плывучая, луннік ажываючы, вадзяны арэх плывучы, фіялка багнавая, сліва калючая, аднацветка аднакветкавая** і шмат іншых.

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

## 8. Альманскія балоты

Альманскія балоты – гэта буйнейшы ў Еўропе комплекс верхавых, пераходных і нізінных балот, які захаваўся да нашых дзён у натуральным стане. Плошча – амаль 100 тысяч гектараў. Захаванню тэрыторыі паспрыяла стварэнне тут вайсковага палігона, пад-

# ТОП|15

## ДЛЯ БІЯРАЗН

**Каб пабачыць дзіўнае – не трэба ляцець у далёкія краіны. Л**
**рэдкія архідэі і фіялкі, а таксама іншыя рэдкія жывелы, птуш**
**Да 15-годдзя АПБ мы склалі карту найбольш значных 15 тэ**
**якія вы пазнаеце, чаму Сінявокая славута сваёй некранутай**





Вялікі арлец

най колькасці гняздуюцца
больш чым 100 пар **шэрых ж**
забяспечваюць існаванне з
рускай папуляцыі **барадатай**
**глушэц,** палеская папуляцы
прыгнечаным становішчы.

**Што пагражае:** Пасля за
стала хутка асвойвацца: ту
развіваецца паляўнічая га

# 5 | ТЭРЫТОРЫЙ БЕЛАРУСІ

## НАСТАЙНАСЦІ

**Лошадзі Пржэвальскага і зубры, чорныя аісты і зімародкі,
ікі і расліны чакаюць цябе ў Беларусі.
рыторый для біяразнастайнасці нашай краіны, наведаўшы
прыродай на ўсю Еўропу.**




час чаго з тэрыторыі Альманскіх балот былі адселены нават хутары. З-за падобнай маладаступнасці тэрыторыя стала ключавым месцам гнездавання самай асцярожнай драпежнай птушкі Беларусі — **вялікага арляца.** Акрамя таго тут у знач- **вялікі грыцук, вялікі кулён,** **журавоў.** Альманскія балоты начнай часткі (да 20%) бела- **й кугакаўкі,** гняздуецца тут і я якога зараз знаходзіцца ў

акрыцця палігона тэрыторыя т створаны Палесскі лясгас, спадарка, будуюцца дарогі. Пасля адпаведнага рашэння пра адкрыццё мяжы, летам з украінскага боку дзеля збору грыбоў і ягад штодзень заходзіць некалькі тысяч чалавек.

**Тытулы:** Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 9. Прыпяцкі Нацыянальны парк

Унікальная частка поймы ракі Прыпяць, характэрнай рысай якой з'яўляюцца славутыя поймавыя дубровы, адкрытыя паплавы і забалочаныя лясы. Прыпяцкія балоты маюць міжнароднае значэнне для захавання відаў, якія знаходзяцца пад глабальнай пагрозай знікнення: **вялікі арлец, дубальт, вялікі грыцук.** На рэгіянальным узроўні гэтая тэрыторыя важная для захавання **чорнага бусла, арла-вужаеда, шэрага жураўля.** Тут існуе стабільная папуляцыя **зубра**. Наяўнасць такой колькасці відаў нацыянальнай і міжнароднай значнасці падкрэслівае важнасць тэрыторыі для захавання біялагічнай разнастайнасці Палесся, Беларусі і Еўропы ў цэлым.


Дубальт

Што пагражае: Як ні дзіўна – сам Нацыянальны парк. Тэрыторыя парку знаходзіцца на ключавым еўрапейскім пралетным шляху водна-балотных птушак. Але прыярытэтам адміністрацыі парку тут абраная не іх ахова, а развіццё веснавога палявання.

**Тытулы:** Нацыянальны парк, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 10. Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік


Чорны бусел

Адзіная тэрыторыя Беларусі, дзе гаворка ідзе не пра захаванасць дзікай прыроды, а пра яе вяртанне. Запаведнік дзейнічае ў межах 30-ці кіламетровай зоны адсялення, створанай пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. За 26 год месца чалавечай трагедыіператварылася ў рай для дзікай прыроды. І з кожным годам запаведнік становіцца ўсё больш значным для захавання біяразнастайнасці. Тут ёсць папуляцыя **зубра**, вяртаецца **мядзведзь**, вяртаюцца многія віды драпежных птушак, якія раней там не гняздзіліся. Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік – адно з нешматлікіх месцаў, дзе ўсе працэсы аднаўлення праходзяць абсалютна натуральна. На гнездаванні ў запаведніку мужна сустрэць такіх рэдкіх птушак, як **вялікі арлец, чорны бусел, арол-вужаед, малы арлец, арлан-белахвост, сокала-пустальга, барадатая кугакаўка.** Гэта тэрыторыя — ўнікальнае для Беларусі месца зімоўкі буйных драпежных птушак – **арлана-белахвоста і арла-маркута**. Запаведнік – адзінае месца ў Беларусі, дзе можна сустрэць **лошадзь Пржэвальскага.**

**Тытулы:** Запаведнік, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 11. Пойма Дняпра Лоеў-Жары


Вадзяны арэх плывучы

Пойма р. Дняпро – гэта адзін з ключавых шляхоў для мігруючых водна-балотных птушак. Найбольш распаўсюджанымі тыпамі экасістэм на дадзенай тэрыторыі з'яўляюцца лугі. Менавіта яны займаюць больш за палову плошчы тэрыторыі і ствараюць выдатныя ўмовы для гнездавання такіх рэдкіх відаў, як **дубальт, драч, малая крычка, белакрылая крычка, звычайны пагоніч.** Крутыя берагі спрыяюць гнездаванню **ластаўкі-зямлянкі.** Тут растуць некаторыя рэдкія і знаходзячыеся пад пагрозай знікнення расліны. Гэта, напрыклад, **званок лілеялісты, кураслеп лясны, асака ценявая, лілея кучаравая, касач сібірскі, наяда вялікая, шалфей лугавы, вадзяны арэх плывучы, фіялка багнавая, падвей стройны.** Арнітафаўна тэрраторыі слаба вывучана і таму патрабуе далейшых даследванняў. Для поймы Дняпра было адзначана каля 200 відаў птушак.

**Тытулы:** Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 12. Налібоцкая пушча


Зімародак

Налібоцкая пушча – адзіная цэласная тэрыторыя, размешчаная ў басейне Нёмана ў заходняй частцы цэнтральнай Беларусі, на якой практычна ў натуральным стане захаваліся лясныя масівы вялікай плошчы са спецыфічным прыродным комплексам. Прырода заказніка адрозніваецца выключнай прыгажосцю і маляўнічасцю натуральных ландшафтаў, высокай лясістасцю (каля 80 %) і нізкай сельскагаспадарчай засвоенасцю. Тэрыторыя мае выключнае значэнне для захавання месцаў гнездавання **малога арляца** (уваходзіць пяцёрку найбольш значных месцаў для Еўропы), **звычайнага зімародка і чорнага бусла**. Таксама тут адзначаны ў невялікай колькасці **дубальт, вялікі грыцук і вялікі кулён**. Сярод рэдкіх звяроў тут можна пабачыць **еўрапейскага зубра, еўрапейскую рысь, барсука, арэшнікавую соню.** Ёсць і рэдкія расліны: **баранец звычайны, лілея кучаравая, цыбуля мядзведжая** і шмат іншых.

**Тытулы:** Ландшафтны заказнік, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці


Буры мядзведзь

### 13. Бярэзінскі біясферны запаведнік

Бярэзінскі біясферны запаведнік – буйнейшы комплекс хваёвых лясоў, якія перамяжаюцца з верхавымі і нізіннымі балотамі і поймамі рэк. Яго прыродныя ўмовы характарызуюцца некранутым аблічам лясоў і вялікіх сфагнавых балот. Запаведнік быў створаны ў 1925 годзе дзеля захавання папуляцыі бабра, але цяпер тэрыторыя мае іншае значэнне. Гэта адно з самых бяспечных месцаў у Беларусі для бурага мядзведзя, які зараз вельмі пакутвае ад актывізацыі лясной гаспадаркі і загоннага палявання. Тут не вядзецца падкормка, санітарныя рубкі, не палююць на ваўка, што робіць запаведнік адным з нешматлікіх месцаў у краіне з натуральным ходам прыродных працэсаў. Тут жыве папуляцыя **зубра**, можна пабачыць **сажалкавую начніцу, паўночнага кажанка, садовую соню, рысь, барсука.** Сучасная флора запаведніка ўключае больш 2000 відаў раслін. Сярод іх рэдкія і тыя, што знаходзяцца пад пагрозай: **граздоўнік рамонкалісты, мнаганожка звычайная, бяроза карлікавая, венерын чаравічак сапраўдны** і шмат іншых.

**Тытулы:** Запаведнік, Біясферны рэзерват, Дыплом Савета Еўропы, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 14. Балота Ельня

Шэры журавель

Буйнейшае ў Беларусі верхавое балота са шматлікімі азёрамі, якія прыдаюць разнастайнасць аднатоннаму ландшафту. У сувязі з цяжкай даступнасцю і спецыфікай ландшафтаў тэрыторыя выкарыстоўваецца чалавекам вельмі абмежавана. На тэрыторыі заказніка сустракаецца 117 відаў птушак, 25 з якіх занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Характэрная рыса балотнага масіву Ельня – наяўнасць калоній кулікоў на балоце і калоній чаек на азёрах. Гэта месца гнездавання птушак, тыповых для комплексаў верхавых балот: **чорнаваллёвага гагача, пардвы, залацістай сеўкі, сярэдняга кулёна і куліка-селянца.** Рэдкія для Беларусі, яны сустракаюцца тут у значнай колькасці. Акрамя іх на балоце гняздуюцца **сокал-дрымлюк і арол-вужаед.** Ельня мае вялікае значэнне як месца прыпынку мігрыруючых гусей, качак і жураўлёў на вясновых і восеньскіх пралётах. З рэдкіх жывёлін тут сустракаецца **барсук**.

**Тытулы:** Ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

### 15. Каз'яны

Заказнік уяўляе сабой складаны мазаічны комплекс верхавых балот, лясоў, заліўных лугоў, азёр і сельскагаспадарчых земляў. Тэрыторыя характарызуецца разнастайнасцю і кантрастнасцю экалагічных умоў, наяўнасцю ўнікальных прыродных комплексаў: буйных масіваў верхавых і пераходных балот, адкрытых нізінных балот, шматлікіх рэк і азёр, пясчаных дзюн; а таксама малапарушаных лясоў, у тым ліку і фрагментарных дубраў. На гнездаванні ў заказніку адзначана 175 відаў птушак, 44 віды занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Тэрыторыя мае рэгіянальнае значэнне для захавання **чорнага бусла, палявога луня, скапы, шэрага жураўля, вялікага кулёна.** Каз'яны маюць вялікае значэнне для птушак верхавых і пераходных балот: тут гняздяцца **сокал-шулёнак, пардва, залацістая сеўка, сярэдні кулён, кулік-селянец, звычайны гогаль.** Сутракаюцца **бурыя мядзведзі, барсукі, рысі.**

**Тытулы:** Ландшафтны заказнік, Рамсарскае ўгоддзе, Тэрыторыя важная для птушак міжнароднай значнасці

**Метадалогія**

Пры складанні спіса былі ўзяты пад увагу наступныя параметры:

а) колькасць відаў і памер папуляцый звяроў, што маюць высокі міжнародны статус аховы (Катэгорыя Уязвімы (VU) IUCN);

б) колькасць відаў і асобінаў птушак з высокім міжнародным статусам аховы (Катэгорыі Пагражаемы (EN), Уязвімы (VU) IUCN);

в) плошча біятопаў, што ахоўваюцца на еўрапейскім узроўні (згодна з Бернскай канвенцыяй);

г) наяўнасць нацыянальнага ці міжнароднага статуса ў тэрыторыі.

Падчас аналізу выкарыстаны матэрыялы з баз дадзеных грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» і матэрыялы Інстытута экспрыментальнай батанікі НАН Беларусі

